 


# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

№ 35 (914) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 2 ВЕРАСНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.





На працягу амаль паўгода часу інфармавалі мы чытачоў пра тое, што ў сімвалічны Дажынкавы вянок рыхтуюць тыя паветы, ў якіх пражываюць беларусы. Сёння, калі ўжо вітаем у Беластоку гасцей, прыбыўшых на Цэнтральныя дажынкі, мы папрасілі старшыню прэзідыума ВРН у Беластоку, доктара **Зыгмунта Спрыху** аб інтэрв'ю.

**„Ніва":** Паважаны старшыня, якімі вынікамі закончылася шматмесячная падрыхтоўка да Цэнтральных дажынак у Беластоку?

**Старшыня:** З прыемнасцю сцвярджаю, што падрыхтоўка да Цэнтральных дажынак у Беластоку закончылася добрымі вынікамі. Жыхары нашага ваяводства поўнасцю апраўдалі высокі давер партыі і ўрада, якія рашылі, што сёлеташнія Цэнтральныя дажынкавыя ўрачыстасці маюць адбыцца ў Беластоку. Сяляне Беласточчыны поўнасцю заслужылі на гэты вялікі гонар. Яны ж на працягу кароткага часу дабіліся самага вышэйшага ў краіне прыросту сельскагаспадарчай прадукцыі. І падрыхтоўка да Цэнтральных дажынак закончылася ў нас поўным поспехам. Лозунг „Гаспадар Дажынак — не падвядзе" — знайшоў у грамадскасці Беластоцкага ваяводства вельмі шырокі водгук. Вёскі і гарады, асабліва ля дарог, якімі будуць праязджаць дажынкавыя госці, набралі свежага, святочнага выгляду. Сяляне адрамантавалі платы і вуліцы, перакрылі дахі дамоў і гаспадарчых будынкаў. ПКС пабудаваў прыгожыя прыпынкі для сваіх пасажыраў.

Шырока разгарнулася акцыя дажынкавых абавязацельстваў сярод жыхароў вёскі. У выніку гэтага мы датэрмінова выканалі план пакупкі збожжа з мінулагодняга плёну. Нашы гаспадары перавыканалі план на 13 працэнтаў.



**Старшыня ПВРН у Беластоку др Зыгмунт Спрыха.**



**НАЙСМАЧНЕЙШЫ ХЛЕБ АД СВАЕЙ ПРАЦЫ.**

Ужо ў месяцы маі нашае ваяводства — як першае і адзінае на ўсю краіну — поўнасцю рэалізавала план 1972/73 гаспадарчага года па прымяненню мінеральных угнаенняў, а да чэрвеня, калі канчаецца гаспадарчы год, сяляне купілі яшчэ дадаткова 1300 тон мінеральных угнаенняў у пераліку на хімічна дзейснае рэчыва.

Гэта стварыла добрую аснову для змагання за высокі ўраджай. І сапраўды, такога ўраджаю, як сёлета, на Беласточчыне яшчэ не было. На гэты ўраджай склалася ахвярная, цяжкая праца аднаасобнікаў, а таксама рабочых калектываў дзяржаўных гаспадарак (ПГР-аў), спулдзельняў прадукцыйных, сельскагаспадарчых гурткоў і машынна-трактарных баз. Вялікае ім дзякуй за гэта. Асабліва ў апошніх тыднях, у час уборкі і малацьбы збожжа нашы сяляне працавалі дасканала. Ніхто з іх не азіраўся на перапрацаваныя гадзіны, ніхто не шкадаваў поту, людзі не зыходзілі з палёў да цямна, каб толькі закончыць працу, каб адрамантаваць па-

**(Працяг на стар. 2)**



# НА БЕЛЯВІЦКІХ ХУТАРАХ

**З**араз за Гарадком распачынаюцца Белявіцкія хутары. Вёска цягнецца некалькі кіламетраў. Так яе запланавалі царскія землямеры, бо цераспалосіца ў Белявічах была зліквідавана яшчэ ў 1910 годзе.

— Быў я тады яшчэ сямігадовым хлапчуком, — успамінае Ян Хшаноўскі, які цяпер кіруе працай Белявіцкага сельскагаспадарчага гуртка, — але памятаю, як у нас дзялілі хутары. Толькі пацешыцца імі нам не давялося, бо хутка ўспыхнула вайна і мы паехалі ў бежанства. А калі вярнуліся з Расіі, ўсё зарасло лесам, не засталося ні кала, ні двара, а толькі дзевяць душ у хаце...

За нашымі плячыма грахоча камбайн „Вістуля", на якім — сын Яна Хшаноўскага, таксама Ян. Косіць і малоціць „кулковае" збожжа, якога Белявіцкі гурток супольнымі сіламі вырошчвае 65 гектараў (50 га — жыта і 15 — аўса). Па прафесіі ён настаўнік. Вучыць дзяцей у Шчучыне, што ў Граеўскім павеце, але ў канікулы дапамагае бацьку. Вось цяпер заступіў камбайнёра Яна Шыкуця, які на кароткі час вызвалены быў адараваца ад сваіх абавязкаў.

— Адкуль у вас знайшлося аж столькі дзяржаўнага фонду зямлі, — пытаю старшыню Хшаноўскага, а ён раскусіўшы цвёрды арэх, кажа:

— Па-рознаму бывала. Найчасцей аднак адтуль, што некаторыя гаспадары лёгкадумна пакідалі зямлю і шукалі лягчэйшага жыцця ў горадзе.



*— Гэты снапок з нашага гурткоўскага поля паедзе на Цэнтральныя Дажынкі, — інфармуе старшыня Белявіцкага сельгасгуртка Ян Хшаноўскі.*

Народная ўлада дала ўсім волю, адкрыла доступ да школ... Навошта далёка шукаць. У мяне самога было двух сыноў і абодва пакінулі бацькоўскую хату. Толькі я са сваёй жонкай, хаця абое ўжо старыя, як тыя кляшчы, трымаемся дзедаўскага гнязда.

Гэтае „дзедаўскае гняздо" ў Яна Хшаноўскага не вельмі прасторнае. Усяго ледзь 2 га ворнай зямлі і 2 га сенажаці. І зямля не найлепшай якасці, IV і V класы. Можна было б сказаць, што ён — бядняк. На шчасце, бядаў ў хаце Хшаноўскіх няма. Адстаўляе ён у год не менш як 10 штук кормнікаў і больш чым 11 тысяч літраў малака, у якім працэнт тлушчу даходзіць да 5. Коратка гаворачы, Ян Хшаноўскі патрапіць гаспадарыць. На сваім і на супольным.

— Нічога я не зрабіў бы, каб у нашым „кулку" не было дружнага калектыву. Асабліва хачу пахваліць камбайнёра, Яна Шыкуця і нашага дыспетчара Яна Тарасевіча. Ён яшчэ малады, толькі што пасля школы...

— ...ды яшчэ вучуся, — дабаўляе Ян Тарасевіч, — на завочным аддзяленні Супрасльскага сельскагаспадарчага тэхнікума...

— ...але патрапіў, — прадаўжае сваё старшыня Хшаноўскі, — неяк дагаварыцца з людзьмі. Дык і сваркі за машыны ў нас цяпер намнога менш і эфектыўнае іх выкарыстанне шматзначна павысілася.

— Да сённяшняга дня, — заяўляе дыспетчар, — кожны з нашых 10 трактараў працаваў у сярэднім па 750 гадзін. Да канца года — будзе паўтары тысячы.

Сапраўды, паказальнік высокі, амаль што рэкордны. І ўраджай сёлета ў белявіцкіх гурткоўцаў таксама неблагі. 22 цэнтнеры жыта з гектара на плошчы ў 50 га — гэта мае сваю вартасць.

— Наша збожжа паедзе на Цэнтральныя Дажынкі, — з гордасцю кажа Ян Хшаноўскі. — Вось учора прыязджаў да нас начальнік Гарадоцкай гміны і загадаў мне падрыхтаваць акуратненькі снапочак нашага гурткоўскага жыта.

Развітаўшыся са старшынёю Хшаноўскім, пайшоў я далей назіраць за жыццём на Белявіцкіх хутарах. Найперш зацікавіла мяне сядзіба Марыі і Паўла Кулікоўскіх. Панадворак старанна загаспадараны, усе будынкі пад чарапіцай, над дахам хаты — дзве тэлевізійныя антэны: адна на варшаўскую праграму, а другая — на мінскую, у „пакоях" новая, купленая, бліскучая (такая мода!) мэбля.

— А як жа, кажа гаспадыня, — і халадзільнік, і пральная машына таксама ёсць. Без гэтага цяпер я не ўяўляю сабе жыцця. Ды яшчэ сельскагаспадарчыя машыны амаль усе маем, адно толькі трактара не можам купіць.

**(Працяг на стар. 4)**



*У працы гурткоўцам з Белявіч шмат дапамог камбайн «Вістуля».*

 

# Марыя і Аляксей Зялінко



Марыя і Аляксей Зялінко — жыхары вёскі Сухавольцы Гайнаўскага павету. Гэта адна з найпрыгажэйшых вёсак. Мураваныя дамы з ганкамі, каляровыя жалезныя парканы. Усе 90 дамоў, быццам падрыхтаваныя на выстаўку. Аднымі з першых сялян, якія пачалі ў 1957 годзе будаваць мураваныя дамы, былі Марыя і Аляксей Зялінко. Зараз у іх прыгожы дом і новыя сельскагаспадарчыя будынкі.

— Як вядома, нашая вёска калектыўна заняла першае месца ў конкурсе „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная" і мы атрымалі 100.000 зл. узнагароды — гаворыць Марыя Зялінко. — Грошы вёсцы прыдадуцца. Неабходны нам вадаправод. Вады ў сухавольскіх студнях недастаткова. А без яе, як вядома, не павялічыць нам жывёлагадоўлі. Да пабудовы вадаправода возьмемся грамадскім чынам. Не інакш аднавяскоўцы пабудавалі злеўню малака, клуб, шматлікія мясцовыя дарогі.

— Вёска чакае таксама на ўпарадкаванне спраў, звязаных з абменам нашых сенажацяў і пасбішчаў. Бо чамусьці не спяшаюцца з гэтым павятовыя ўлады — уключаецца да размовы муж Марыі, Аляксей.

Цікавімся дасягненнямі ў працы на гаспадарцы Марыі і Аляксея Зялінко. Яны маюць новыя будынкі і частку ўласных найбольш неабходных на гаспадарцы сельскагаспадарчых машын. Штодзень возяць на пункт скупкі ў сярэднім 25—30 літраў малака. Каб павялічыць гадоўлю быдла купілі нядаўна трое пародзістых цялят. Гадуюць 16 штук свінней. У мінулым годзе прадалі дзяржаве 5 тон ялавічыны. Збожжа прадаюць у сярэднім 4—5 тон і бульбы 15—20 тон („уран" і „флісак" дае ўраджай 280—300 цэнтнераў з гектара земляных угоддзяў V і VI класаў). У 1972 годзе Аляксей Зялінко ўдзельнічаў у конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная" і заваяваў званне майстра сельскагаспадарчай прадукцыі. Атрымаў ён таксама Сярэбраны крыж заслугі.

Грамадска многа працуе Марыя Зялінко. Яна з'яўляецца членам 28-асабовага гуртка вясковых гаспадынь. Жаночай арганізацыі вялікую дапамогу аказвае сельгасгуртОК у Саках. Ад „кулка" атрымалі жанчыны грошы на пасуду і змеханізаванае абсталяванне дамашняга ўжытку. Усё закупіла Марыя Зялінко. Цяпер жанчыны карыстаюцца супольнай пасудай ці то з нагоды вяселля, або хрэсьбін. Арганізуюць яны вясковыя дзяціцы два разы ў год: у час жніва і капання бульбы. Прайшлі яны амаль усе курсы, як гатавання і пячэння, вышыўкі, кравецкі. У гэтым годзе будуць вучыцца як найлепш рабіць з фруктаў варэнне, кампоты, павідла. Удзельнічаюць яны ў конкурсе „Букет кветак і агародніны" і ў конкурсе на чысціню аборы і малака. За ўдзел у апошнім конкурсе Марыя Зялінко атрымала тысячу злотых ўзнагароды. Яна таксама вырошчвае ў сябе малавядомую агародніну як: шпінак, каляфёр, капусту-бруксельку. Марыя Зялінко як і ўсе жанчыны з КГВ ідуць з духам прагрэсу. Ім не абыякава справа спецыялізацыі ў раслінаводстве, або ў жывёлагадоўлі.



Тэкст і фота **Янкі Цялушэцкага**

МЫ ГАНАРЫМСЯ ІМІ

## АЛЯКСАНДР ЛУШЧЫНСКІ



Аляксандр Лушчынскі з вёскі Дыдулі Бельскага павету — заслужаны змагар за народную ўладу, ОРМО-вец, грамадскі і партыйны дзеяч. Армоўцам А. Лушчынскі з'яўляецца ад 1945 года. За ахвярную працу ён быў узнагароджаны медалем „У службе народу".

Аляксандр Лушчынскі прайшоў багаты жыццёвы шлях: быў радным гміны ў Орлі ў 1948—1956 гадах, працаваў на адказных пасадах, між іншым сакратаром гміны ў Кляшчэлях, старшынёю грамадскіх радаў нарадовых у Маскеўцах і Грыгароўцах, інструктарам Павятовага камітэта партыі ў Бельску. Ён з'яўляецца членам Павятовага камітэта партыі. У 1969 годзе Рада Дзяржавы ўзнагародзіла Аляксандра Лушчынскага Залатым крыжам заслугі, а два гады таму назад ён атрымаў адзнаку „Заслужаны Беласточчыне".

Аляксандр Лушчынскі цешыцца вялікім аўтарытэтам у сваім асяроддзі.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

Пачатак на стар. 1

# Апраўданы ДАВЕР

псаваную тэхніку. Дзякуючы гэтай ахвярнасці сялян, мы ўжо перад 20 жніўнем закончылі жніво. У нашым паўночна-усходнім ваяводстве такі поспех лічыць трэба амаль падвойна, бо збожжа даспявае ў нас на многа пазней, чым у цэнтральных і паўднёвых раёнах Польшчы.

Гаворачы аб выніках падрыхтоўкі да Цэнтральных дажынак, нельга забываць аб намаганнях жывёлагадоўцаў. Жывёлагадоўля займала асноўнае месца ў дажынкавых абавязацельствах сялян Беласточчыны. У выніку гэтага ў хлявах і аборах жыхароў беластоцкай вёскі знайшлося больш чым раней планавалася: кароў на звыш 1500 штук і свінней амаль на 161 тысячу.

Дасягненні нашых сялян, іх прадукцыйныя вынікі мы ўсебакова паказваем на сельскагаспадарчай выстаўцы. А яна ж — таксама вынік падрыхтоўкі да Цэнтральных дажынак. За кароткі час пабудавалі мы выставачныя павільёны, перабудавалі спартыўны стадыён „Гвардыі", дзе будуць праходзіць галоўныя дажынкавыя ўрачыстасці, адкрылі ў Беластоку новыя кавярні і будынкі культурнага прызначэння. Дарэчы, цэлы Беласток змяніў свой выгляд.

Усё, што ўдалося нам зрабіць у час падрыхтоўкі да Цэнтральных дажынак, доўга яшчэ будзе служыць нашаму гораду і жыхарам ваяводства. У наступных гадах у выставачных павільёнах будзем мы паказваць дасягненні нашага ваяводства, а таксама арганізаваць мерапрыемствы гандлёвага характару..

**„Ніва":** Што ў Беластоцкім ваяводстве найбольш заслугоўвае на тое, каб паказаць гасцям, прыбываючым на Цэнтральныя дажынкі?

**Старшыня:** Уся Беласточчына прыгожая і цікавая. Мы аднак хацелі б, каб нашы госці асабіста пераканаліся аб гаспадарнасці нашых сялян, аб добрых выніках у працы нашых рабочых. Таму прадбачваем многія экскурсіі да перадавых дзяржаўных і аднаасобніцкіх гаспадарак; хочам, каб жыхары іншых ваяводстваў і павятаў пабачылі, так прыгожа ўпарадкаваныя вёскі, як Сухавольцы, або Чыжы ў Гайнаўскім павеце. Пакажам ім тэкстыльны камбінат „Фасты" і многа іншых прамысловых прадпрыемстваў. Хацелася б нам, каб нашы госці вывезлі ад нас вобраз Беласточчыны працавітай і адналькава, як іншыя раёны нашай радзімы, змагаючайся за ажыццяўленне тых заданняў, якія на апошнім VI з'ездзе ўказала нам Польская аб'яднаная рабочая партыя.

**„Ніва":** Што Вы ў сувязі з Дажынкамі хацелі б сказаць сялянам Беласточчыны?

**Старшыня:** Перш за ўсё хацеў бы яшчэ раз вельмі сардэчна падзякаваць нашым сялянам за іх ахвярную працу, за добрыя вынікі гэтай працы. Цяпер трэба ўсім нам старацца, каб утрымаць на высокім узроўні гэты „дажынкавы" тэмп працы. Хай кожны на сваім пасту працуе так, каб Беласточчына з кожным годам была ўсё багацейшай, а яе насельніцтву жылося ўсё лепш.

**„Ніва":** Дзякую за гэтыя каштоўныя выказванні.

Інтэрв'ю ўзяў **Віктар Рудчык**
фота аўтара



**Niedziela — 2.IX**
7.40 Program dnia. 7.45 TV Kurs Rolniczy. 8.20 Przypominamy, radzimy. 8.30 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 9.00 Dla młodych widzów: „Dym w lesie" — fab. film radzieckie. 9.55 CENTRALNE DOŻYNKI — Transmisja z Białegostoku. 13.00 Dziennik. 13.15 Niedzielny Koncert Promenadowy z Gdańska. 14.15 Losowanie Toto-Lotka. 14.30 Bibliotekarze — turniej z cyklu: „Sonda". 15.30 Finał indywidualnych Mistrzostw Świata na żużlu. 18.00 „Polonia o sobie". 18.35 Estrada Poetycka. Poezja Polska — „Bagnet na broń". 18.45 „Kryteria". 19.20 „Miś z okienka". 19.30 Dziennik. 20.15 „Kopernik" — film TVP, cz. I — „Niebo". 21.05 PKF. 21.15 „Przeboje babci, mamy oraz moje" — program rozrywkowy. 22.25 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek — 3.IX**
16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 TV Dziewcząt i Chłopców „Doktor Ojboli" — film baletowy prod. TV Radzieckiej. 17.35 Echo stadionu. 18.00 TV Kurier Olsztyński. 18.15 Oferty. 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.40 Eureka. 19.10 Wypowiedź Ambasadora Demokratycznej Republiki Wietnamu z okazji święta narodowego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Danił Granin „Pierwszy interesant". Teatr TV. 21.45 „A tu jest Warszawa" — rep. filmowy. 22.10 Dziennik. 22.25 Słynne melodie z opery „Porgy and Bess" George'a Gershwina.

**Wtorek — 4.IX**
10.00 „Kopernik" — film TVP, cz. I — „Niebo". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Telewizja Młodych. 16.55 „Klub Innych". 17.15 „Debiut". 17.40 „5×5". 18.10 „Eine kleine Nachtmusik" — Wolfganga Amadeusza Mozarta — program TV Czechosłowackiej. 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Ochrona Bałtyku". 19.15 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Filmoteka Arcydzieł: „Desperaci" — fab. film. węgierski. 21.50 Echo Forum z Ministrem Oświaty i Wychowania — Jerzym Kuberskim. 22.30 Dziennik i wiadomości sportowe.

**Środa — 5.IX**
10.00 „Desperaci" fab. film węgierski. 12.45 TV Technikum Rolnicze — Matematyka, lekcja 21. 13.25 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja Rolnictwa — lekcja 8. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Latający Holender". 17.10 Dla dzieci: Maria Kownacka „Grymasela". 17.35 Informacja — Towary — Propozycje. 17.55 „Muzeum Marynarki Wojennej" — reportaż („Morskie spotkania"). 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 Nauka i światopogląd. 19.20 Dobranoc. 20.15 Film z serii: „Bonanza". 21.05 Publicystyka międzynarodowa. 21.35 „Nie ma mocnych na żołnierza" fragmenty koncertu finał. VII Festiwalu Wojskowych Zespołów Artystycznych w Połczynie-Zdroju. 22.35 Dziennik i wiadomości sportowe.

**Czwartek — 6.IX**
10.00 Dla szkół: kl. VI Historia: „W obronie Pomorza Gdańskiego". 10.30 Film z serii „Bonanza". 14.00 Matematyka w szkole — Powtórzenie wiadomości o liczbach i zbiorach w ćwiczeniach — cz. 1. 15.20 TV Technikum Rolnicze — Matematyka — lekcja 19. 15.55 TV Technikum Rolnicze — Mechanizacja Rolnictwa, 1.8. 16.25 Prorgam dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodych widzów: „Żrebaczek" — film prod. TV Radzieckiej. 17.40 PKF. 17.55 Z teki folklorystycznej Adolfa Dygacza „Ja musiałem być zbójnikiem". 18.25 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 Progarm publicystyczny. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Uwaga niebezpieczeństwo" fab. film USA („Alfred Hitchcock przedstawia"). 21.05 „Biały Batalion" — reportaż filmowy. 21.35 Kabaret Starej Warszawy „Tak to było". 22.35 Dziennik i wiadomości sportowe.

**Piątek — 7.IX**
10.00 „Uwaga niebezpieczeństwo" — fab. film USA. 12.45 TV Technikum Rolnicze. Język polski, 1.15. 13.25 TV Technikum Rolnicze, Wskazówki metodyczne — 1.4. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci — Pora na Telesfora, „Czarodziejski trójkąt" — film TVP. 17.25 Nie tylko dla pań. 17.50 Sylwetki X Muzy — Barbara Rachwalska. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 Za kierownicą. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Melodie z Jugosławii. 20.55 Panorama. 21.35 Teatr TV: Odön von Horvath „Sąd ostateczny". 22.45 Dziennik i wiadomości sportowe i sprawozdanie z finału Pucharu Europy kobiet w lekkiej atletyce.

**Sobota — 8.IX**
10.00 Dla szkół: kl. VII Geografia — Wzdłuż wybrzeży Europy. 10.30 Filmy René Claira — „Urok szatana" — fab. film francuski. 12.15 TV Technikum Rolnicze, Język polski, lekcja 17. 12.50 TV Technikum Rolnicze — Wskazówki metodyczne — lekcja 4. 13.20 Program dnia. 13.25 Program I proponuje. 13.45 Redakcja Szkolna zapowiada. 14.00 Sprawozdanie z finału Pucharu Europy w lekkiej atletyce mężczyzn i kobiet. 17.00 Dziennik. 17.10 Telereklama. 17.35 Telewizja Młodych — Nasz wiek: Muzyka. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Władimir Bogłajenko — solista tegorocznego Festiwalu w Sopocie, recital piosenkarski. 20.50 „Urok szatana" — film fab. francuski. 22.20 Dziennik, wiadomości sportowe i kronika z zawodów lekkoatletycznych o Puchar Europy mężczyzn i kobiet (finały). 22.50 „Gwiazdy znad Dunaju i Wełtawy" (Wiosna Estradowa).



**Piątek, 31 sierpnia**
7.45 W moskiewskim ZOO, 8.15 Film fab., 9.20 Koncert, 10.15 Szkoła szachowa, 13.40 Program dnia, 15.15 Koncert, 16.40 Zapamiętaj piosenkę, 17.30 Film animowany, 18.25 Piłka nożna CSKA — „Dynamo" (Moskwa), 19.15 Czas, 19.45 Koncert, 20.50 Program sportowy, Otwarcie pływackich mistrzostw świata. Wioślarstwo: mistrzostwa Europy. Mężczyźni.

**Sobota, 1 września**
7.00 Program dnia, 9.00 Balet, 10.50 Film fab., 12.45 Przegląd międzynarodowy, 13.00 Wioślarstwo. Mistrzostwa Europy. Mężczyźni, 13.45 W eterze „Młodość", 15.20 Filmy animowane, 16.30 Cyrk, 17.35 Spektakl TV, Część I, 19.00 Czas, 19.30 Koncert, 21.00 Pływackie mistrzostwa świata, 21.40 Piłka nożna, „Dynamo" (Mińsk) — „Zaria" (Woroszyłowgrad).

**Niedziela 2 września**
7.00 Program dnia, 9.15 Kiosk muzyczny, 10.30 Polesie, 11.15 Spotkania literackie, 12.00 Hokej. Puchar ZSRR. Półfinały, 14.15 Ekran i czas, 15.15 Klub filmowy. 16.25 Filmy animowane dla dorosłych, 16.45 Spotkania muzyczne, 17.25 Spektakl TV. Część II, 19.00 Czas, 19.30 Koncert, 20.00 Program sportowy. Wioślarskie mistrzostwa Europy. Mężczyźni. Pływackie mistrzostwa świata.

 © PDF: Kamunikat.org 2023

(Працяг са стар. 1)

# НА БЕЛЯВІЦКІХ ХУТАРАХ

— Адкуль вы бераце грошы на такія дарагія пакупкі?

— Багатых дзядзькоў нідзе за мяжой мы не маем, — з усмешкай адказвае пані Марыя. — Усё са сваёй працы. Здаем у год па 10—13 штук свіней, адстаўляем кожны дзень па 50—60 літраў малака, прадаем збожжа і іншыя плады ўласнай працы. Гэта наш даход.

Зараз за хутарам Кулікоўскіх жывуць Вера і Аляксандр Госцікі. Застаў я іх пры ўборцы аўса. Аляксандр Госцік доўгі час супрацоўнічаў з Інстытутам глебазнаўства, апрацоўкі і ўгнаення зямлі. На сваім полі выпрабоўваў розныя метады прымянення мінеральных угнаенняў.

— Бывала, — гаворыць ён, — што на вопытных дзялянках плён бульбы даходзіў у мяне да 400 цэнтнераў з гектара.

— Цяпер беспараўнальна лягчэй жыць у вёсцы, — дабаўляе яго жонка. — Як я ўспомню свае дзявочыя гады, як мы тады працавалі... А цяпер... вось наша дачка з горада ўласнай таксоўкай да нас прыязджае і ўнукаў прывозіць...

— Ды я сам, хаця ўжо мне 68 гадоў, — кажа дзядзька Аляксандр, — на матацыклы ў Гарадок ганяюся справы афармляць.

Па дарозе наведаў я яшчэ Паўла Вільдовіча, солтысавага сына. Яго рэкамендаваў мне начальнік гміны Яўгень Матэйчук і кіраўнік сельскагаспадарчай службы, Сяргей Гацько, як добрага гаспадара. Ды зноў завязалася ў нас гутарка пра ўраджай і жывёлагадоўлю, пра грамадскія справы вёскі. Вільдовіч сапраўды добра гаспадарыць на сваёй звыш 10-ці гектаровай бацькаўшчыне. Прадае 50—70 літраў малака ў дзень і ў сярэднім паўтары тоны кормнікаў у год. Хто хоча, хай лічыць, які з гэтага даход.

— Глядзім тэлевізійныя праграмы, — расказвае Павел Вільдовіч, — заходзім у вясковы клуб на „аранжаду" і „каву". Ёсць у нас партыйная і маладзёжная арганізацыі, дзейнічаюць гурткі БГКТ і вясковых гаспадынь. Ды і Гарадок пад бокам, у якім кіно і аграмадны дом культуры імя К. Каліноўскага...

На Белявіцкіх хутарах жыве цяпер 67 гаспадароў, якія разам апрацоўваюць 500 га поля. Уласнай працай абяспечваюць яны сабе спакойнае, працавітае і шчаслівае жыццё.

**Віктар Рудчык**
фота аўтара

*Вера і Аляксандр Госцікі.*



*Павел Вільдовіч прадае ў год паўтары тоны мяса і да 70-ці літраў малака ў дзень.*



# ЗНАЁМСТВЫ

„Знаёмства адбылося". Пад такім загалоўкам „Голас Радзімы" (№ 30/1292) змясціў рэцэнзію Т. Рэўтовіча на „Літаратурную Беласточчыну". Адкрываецца яна ўрыўкам апавядання Антося з Лепеля „Шляхецкія госці".

„Усяго некалькі старонак займае апавяданне Антося з Лепеля, але як дакладна і сакавіта адлюстраваны ў ім побыт і норавы дробнамаянтковай шляхты, з якой дасціпнасцю намаляваны вобразы" — піша рэцэнзент. Затым ён прыводзіць радаслоўе белавежцаў, адзначаючы, што, за выключэннем Алеся Барскага, аўтары „Літаратурнай Беласточчыны" — не прафесійныя літаратары. Інфармацыя неактуальная, бо ў часе, калі кніжка белавежцаў гатавалася у выдавецкай кухні (5 год), двое іншых яе аўтараў сталі членамі Саюза польскіх пісьменнікаў.

Жыццё ідзе шпарчэйшымі крокамі, чым прадукцыйныя працэсы. Хоць тут, здаецца, пад канец прадукцыі можна было б сёе-тое удакладніць. Але калі на „Літаратурную Беласточчыну" глянуць пад вуглом актуальнасці, дык яна, па той жа самай прычыне, таксама не адлюстроўвае творчасці цяперашніх белавежцаў. Бадай толькі палавіна аўтараў „Літаратурнай Беласточчыны" вытрымала праверку часам. Ды і творчасць іх значна змяніла свой характар. І прыйшло новае шматлікае і цікавае папаўненне, прамінаць якога ўжо немагчыма. Трэба тады мінскую кніжку лічыць падсумаваннем белавежцаў да восені 1967 года, калі матэрыял, які ўвайшоў у „Літаратурную Беласточчыну", быў дасланы ў выдавецтва.

Вернемся аднак да рэцэнзіі. „Анкетная стракатасць" белавежцаў адбілася на тэматыцы іх твораў, — сцвярджае Т. Рэўтовіч, — яна ўплывае і на мастацкую вартасць асобных вершаў і апавяданняў, але ўсіх прадстаўнікоў літаратурнай Беласточчыны яднае пачуццё адданасці роднай зямлі, роднай мове". З паэтычных твораў аўтар рэцэнзіі вылучае вершы Алеся Барскага і Віктара Шведа, з празаічных — апавяданні Міколы Гайдука, мініяцюры Сакрата Яновіча, лясныя апавяданні С. Заставіна („з галоўным героем старым дзедам, гэткім пушчанскім Мюнхгаўзенам") і легенду Васіля Баршчэўскага „Арэлі". У заключэнні гаворыць ён, што са знаёмства, якое адбылося з пісьменнікамі Беласточчыны, чытач застаўся задаволены. Думаю, і белавежцы тым больш. Часцей бы такія сустрэчы!

Аднатуем, што з'яўленне „Літаратурнай Беласточчыны" адзначылі на сваіх старонках „Літаратура і мастацтва", „Маладосць" і „Беластоцкая газета".

Іншым знаёмствам была паездка ў Польшчу ў 1971 годзе беларускага даследчыка літаратурных сувязей Адама Мальдзіса. У ліпеньскім нумары „Полымя" складае ён з яе справаздачу. Цікава гэта матэрыял. І не толькі па літаратурных адкрыццях, якія ўдалося даследчыку зрабіць у польскіх архівах. Іх шмат, і чытачоў, якія цікавяцца польска-беларускімі літаратурнымі сувязямі, адсылаю да абшырнай публікацыі ва ўпамянутым нумары „Полымя". Я хачу спыніцца на больш надзённай справе. У час сваёй пабыўкі Мальдзіс наведаў і Беласточчыну. Піша аб гэтым цёпла. Асабліва захапляецца беларускім музеем у Белавежы („Нідзе я не бачыў такіх пляцёнак з бярозавай і дубовай кары, такіх кросенцаў для ткання, рэшатаў і сітаў з лыка і конскага воласу, такой прылады нацягваць на колы абручы").

Хочацца, каб гэтыя словы дайшлі да тых, ад каго залежыць паўторнае адкрыццё этнаграфічнага музея ў Белавежы, бо ад моманту пераказання яго акруговаму музею, спыніў ён сваю карысную дзейнасць. Як доўга давядзецца чакаць, пакуль таленавітасць і ўмельства мясцовых сялян будуць зноў цешыць вока наведвальнікаў?

Цікавым знаёмствам можна назваць кнігу Івана Шубітыдзе „Палескія былі", якую ў літаратурным запісе Рыгора Няхая выпусціла ў 1969 годзе выдавецтва „Беларусь". Кніга, як адзначае аўтар, пра сумесную барацьбу польскіх і беларускіх партызан. Галіна ўсё яшчэ мала вядомая. А. І. Шубітыдзе ёсць аб чым расказаць. Камандаваў ён Пінскай партызанскай брыгадай, у склад якой уваходзіў польскі атрад імя Касцюшкі. Нядаўна кнігу гэту ў перакладзе на польскую мову выдала „Ксёнжка і ведза". Перакладчыкам з'яўляецца наш добры знаёмы, белавежац Віктар Швед. Гэта першая сур'ёзная спроба белавежцаў ў цяжкім перакладчыцкім рамястве.

Знаёмствам нечаканым з'яўляецца „Пан Тадэўш" — па-беларуску" — артыкул у „Палітыцы" (№ 32/858) вядомага папулярызатара гісторыі КПЗБ і Грамады Аляксандры Бергман. Гэтым разам расказвае яна аб лёсах Тарашкевічавага перакладу „Пана Тадэўша", які, выдастаўшыся ў 1933 годзе з-за крат віленскіх Лукішак, праз Радашковічы і Маскву, трапіў пасля вайны ў Варшаву і знаходзіцца ва ўладанні кафедры беларускай літаратуры.

Аўтар артыкула паведамляе, што ў альманаху „Белавежа" № 2 выйшаў адзін раздзел гэтага перакладу і цытуе Яраслава Івашкевіча, які, па прычыне надрукаванага ў „Полымі" (1962 год) урыўка таго ж перакладу, выказаў надзею, што цэласць будзе апублікавана ў найбліжэйшым часе. Замест заканчэння, А. Бергман яшчэ раз прыпамінае гэтыя пажаданні старшыні Саюза польскіх пісьменнікаў.

Далучаемся і мы да іх, толькі ў які адрас яны цяпер накіраваны? Багатага дзядзькі ўсё не відаць.

**Г. Валкавыцкі**

Сустрэчы з землякамі

# Асноўнае зацікаўленне сваё скіраваў я на гаспадарку на зялёных угоддзях



Сучасны ў архітэктурным кшталце будынак на акраінах Варшавы, у Урсынаўскім цэнтры Сельскагаспадарчай акадэміі. У ўвахода напіс: **„Факультэт водных меліярацый"**. Хутка адшукваю патрэбны нумар пакою. Чытаю: **Інстытут прыродных асноў меліярацыі. Др інж Мікалай Назарук.** Вітаюся з гаспадаром пакою, з якім ужо раней дамовіўся на сустрэчу.

— 17 мая гг. — пачынаю гутарку — Цэнтральнае тэлебачанне рэкамендавала сваім гледачам Вашу найноўшую кніжку п.з. „Пашавая гаспадарка" („Gospodarka pastwiskowa", PWRiL, Warszawa, 1972 г.) Ці праблемы, якія Вы там разглядаеце, укладваюцца ў асноўным напрамку Вашых навуковых зацікаўленняў?

— Зацікаўленні мае пашава-лугавой гаспадаркай адносяцца яшчэ да студэнцкіх гадоў. Вынікала гэта з таго, што родам я з ваколіц, у якіх многа лугоў і пашаў, а іх загаспадараванне на новых асновах пачалося яшчэ ў гадах 1936—1938. Ужо магістэрскую працу падрыхтаваў на тэму магчымасці паднясення прадукцыйнасці лугоў, якія раней былі занядбаны. І пазней, праз увесь перыяд працы, не расставаўся з гэтай праблемай, так як асноўнае сваё зацікаўленне скіраваў я на гаспадарку на зялёных угоддзях. Актуальна існуюць агромадныя магчымасці хуткага павелічэння прадукцыйнасці тых угоддзяў. Нішто не перашкаджае, каб плён з раней запушчаных пашаў пры дапамозе сродкаў даступных селяніну павялічыць на працягу нават года двойчы. Неабходным з'яўляецца толькі іх сумленнае дагляданне і ўгнойванне, а таксама рацыянальнае спасанне адрастаючай травы.

— Вы ўспамянулі пра магчымасць вельмі хуткага паднясення прадукцыйнасці пашаў і лугоў, калі загаспадаруецца іх у сучасны спосаб. Ці такога памеру ўзрост з'яўляецца магчымым ва ўсіх рэгіёнах краіны, нягледзячы на кліматычныя ці глебавыя ўмовы?

— Такі пераскок магчымы напэўна ўсюды, толькі пры ўмове, што пашавыя тэрыторыі маюць належным спосабам урэгуляваныя водныя суадносіны.

— А ці бачыце такога роду магчымасці для Беласточчыны?

— Беластоцкае ваяводства мае самую вялікую плошчу зялёных угоддзяў у краіне — каля 464 тыс. га, — што складае амаль 31% у адносінах да іншых сельскагаспадарчых угоддзяў. Значная частка іх распалажана на арганічных глебах, якія выключна прыгодны для пашава-лугавой гаспадаркі. Многа гэтых угоддзяў патрабуе меліяравання, аднак на ўжо змеліяраваных атрымоўваюцца на Беласточчыне вышэйшыя, чым сярэднія ў краіне, ураджаі.

Клімат Беласточчыны таксама адказвае гэтай галіне вытворчасці. Выступаюць тут некалькі большыя ад сярэдняй па краіне ападкі і пры тым меншы недахоп вільгаці паветра, што карысна ўплывае на ўзрост травяного покрыва.

— Пішаце Вы ва ўспамянутай кніжцы, што „У многіх сялянскіх гаспадарках заложана ўзорныя пашы, якіх прадукцыйнасць дасягае часта 6—8 тыс. аўсяных адзінак з гектара". Ці так выдайныя гаспадаркі існуюць на Беласточчыне?

— На Беласточчыне таксама заложана і закладаецца далей многа ўзорных пашаў, на якіх атрымоўваецца падобную ўраджайнасць. Так, напр. у селяніна Генрыха Яблонскага, на абшарах Нерасль II, што ў павеце Монькі, прадукцыйнасць пашаў дасягнула ў няўвыгадным, сухім 1969 годзе, каля 7 тыс.



 © PDF: Kamunikat.org 2023

 

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# НІНА і ВАСІЛЬ ПРЫЗОВІЧЫ

Добра гаспадараць Ніна і Васіль Прызовічы з вёскі Парцава Бельскага павету. Іх гаспадарка налічвае дзесяць гектараў нязгоршых па ўраджайнасці зямельных угоддзяў. Дзесяць год таму назад пабудавалі яны прыгожы мураваны дом — тады яшчэ першы ў Парцаве. А зараз іх тут многа. Сёлета Ніна і Васіль Прызовічы будуюць новы ўзорны кароўнік, у якім будзе ўведзена механізацыя некаторых работ. Намераны гадаваць перш за ўсё кароў і свінней. У гэтай галіне жывёлагадоўлі маюць яны найбольшы вопыт. Зараз гадуюць шаралесаў (13 штук) і свінней (18 штук). У канцы мінулага года мелі больш 30 штук свінней. Іх шаралесы „ідуць" на пункце скупкі ў „экстру" або першы сорт. Для гэтага патрэбна шмат працы, але прадаць жывёлу ў такім класе ўсё ж найлепш аплочваецца. Згодная і працалюбівая сям'я Прызовічаў пад збожжавыя культуры адводзіць палавіну ўсёй плошчы сваіх зямельных угоддзяў. Вырошчвае жыта Данькоўскае залатое, пшаніцу Міронаўскую і ячмень Кшашовіцкі. Дзяржаве прадаюць яны ў сярэднім больш 7 тон збожжа. Пад бульбу В. Прызовіч адводзіць больш гектара зямельных угоддзяў. Найлепшы ўраджай бульбы Флісак і Уран. На пункце скупу гаспадар прадае сем тон бульбы. Значны расход бульбы ёсць на гаспадарцы.

Васіль Прызовіч па прафесіі аграном. Ён найлепш ведае, як трэба апрацоўваць зямлю. Вядзе ён даследчыя палеткі, а здабытым вопытам на ўласнай гаспадарцы дзеліцца з аднасяльчанамі. Пад збожжавыя культуры высявае ў сярэднім 250 кілаграмаў НПК у чыстым саставе на 1 гектар угоддзяў. Калі мы пры мінеральных угнаеннях, дык трэба сказаць тое, што В. Прызовіч купіў ужо мінеральныя ўгнаенні на будучы год. Як вядома, зараз прадаюць іх з баніфікатай.

Іншай галінай раслінаводства, якая даволі высока аплочваецца, гэта вырошчванне цукровых буракоў. Васіль і Ніна Прызовічы ведаюць гэта найлепш. У іх штогод даволі вялікая па плошчы плантацыя буракоў. Лісце з буракоў сіласуюць і такім чынам атрымліваецца адборны корм для кароў у зімні і ранневясенні перыяд.

Як бачым, Васіля і Ніну Прызовічаў смела можна назваць людзьмі добрай работы. Праца на гаспадарцы ідзе ў іх спорна. Каб аблегчыць значную колькасць палявых работ, яны карыстаюцца „кулковымі" сельскагаспадарчымі машынамі. Частку маюць уласных.

Варта яшчэ пару слоў прысвяціць жонцы Васіля Прызовіча. Ніна Прызовіч дагэтуль старшынствавала, а таксама была дыспетчарам у мясцовым сельскагаспадарчым гуртку. Цяпер больш часу прысвячае ўласнай гаспадарцы і сям'і. Грамадска выконвае функцыю старшыні гуртка вясковых гаспадынь. Гурток даволі вялікі, налічвае 50 асоб. Жанчыны арганізавалі ў сябе амаль усе, якія толькі могуць быць, курсы: краўецкія, вышыўкі, кулінарныя. Займаюцца яны калектыўнай гадоўляй куранят (больш тысячы штук), а таксама вырошчваннем малавядомай агародніны. Дваццаць асоб удзельнічае сёлета ў конкурсе „ Букет агародніны". Усе гэтыя жанчыны пасадзілі ў сябе кабачкі, ярмуж, поры, шпінак, каляфёры, чорную рэдзьку.

Ніна Прызовіч удзельнічае таксама ў пасяджэннях жаночых арганізацый у гміне, а нават у павеце. Жанчыны з Парцава любяць і паважаюць Ніну. Яна падказвае і раіць, напрыклад, дзе купіць і як завясці ў сябе пародзістых свінаматак, як механізаваць некаторыя хатнія работы, якія не такія лёгкія, як здаецца мужчынам. Старшыня КГВ апрача ўсіх сваіх грамадскіх функцый і працы на гаспадарцы, знаходзіць вольную хвіліну, каб пачытаць кніжку і тую ці іншую газету. Яе дом можа быць узорам для іншых жанчын. Нічым не ўступае гарадской кватэры.

У размове з Нінай і Васілём Прызовічамі мне ўдалося адкрыць яшчэ адну важную рысу іх характару. Калі яны нешта задумаюць пабудаваць або купіць, намер свой урэчаісняць. Што задумаюць, то і зробяць, наперакор усім цяжкасцям.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**






У наш час тарахценне трактараў і стракатанне жнярак заглушыла даўнюю працяглую і сумную жніўную песню, што спадарожнічала колісьнім жанцам. Машыны падыктавалі паскораны рытм працы і загадалі забыць пра векавыя жніўныя абрады. Пашырэнне асветы паставіла пад сумненне які-колечы сэнс розных забабонаў, якія раней бытавалі ў сёлах. Уся гэтая каларытная і багатая народная творчасць хутка і назаўсёды адыходзіць са жніва — найцяжэйшага, але і найпрыямнейшага часу ў працавітым годзе селяніна.

Калі ўжо цяжкія снапы наліўнога збожжа запоўнілі клуні аж у самы строп, а лепшыя гаспадары з усяго краю з'ехаліся ў Беласток, каб адсвяткаваць Дажынкі, прыгадайма, як гадоў таму пяцьдзесят выглядала жніво на Беласточчыне.

Расказвае Анна Стахвіюк з вёскі Трасцянка Гайнаўскага павету.

„У нас то калісь так было: выходзілі зажынаць толькі ў суботу. Як выйсці ў панядзелак, то будзе цэлае жніво вельмі цяжкае — сярэдзіна балець будзе. Выходзілі надвечар цэлаю дружынаю. Калі зайшлі на жытні палетак, то бацька абыходзіў сваё поле, паглядзеў ці няма закрута на жыце. Закрут — гэта паламаная і закручаная кімсьці жменя сцяблоў. Нядобры чалавек закручваў жыта гаспадару на кепскае: каб яму прападаў дабытак, або каб у сям'і нялагдзілася. Закрут вырывалі з жыта і няслі на перакрэсную дарогу, дзе крыжуюцца дарогі, і там палілі яго. Іншы раз зусім не датыкаліся да закрута, асцярожна абжыналі вакол жыта і пакідалі яго на пустой пожні. Калі даткнуцца да закрута, ён мог выклікаць якоесьці няшчасце.

Як поле ўжо было абгледжана, тады перахрысціліся, каб шчасцілася жніво, і зажыналі. Жалі ж толькі сярпамі. Наперадзе станавілася пастацянка. Пастацянкаю ж звалася найлепшая жніца ў сям'і — старшая дачка або сама гаспадыня. Яна і старалася ўсё жніво наперадзе жаць, даваць прыклад усёй дружыне. І прымавіска такія былі: „наперадзе піва п'юць, а назадзе кіем б'юць" або „паджынайся нябожа — заставацца нягожа". У канцы ж ставілі найслабшага работніка. І хоць яму найбольш даставалася, усё ж аб ім пагардліва казалі: „о, цягнецца ў хвасце". Жанцы жалі і зжатае збожжа клалі „на жмені". Гаспадар жа ішоў ззаду і жарабіком вязаў жмені ў снапы. Жанцы жалі ды прыспеўвалі:

Ой, дожынайсе, ой, дожынайсе,  
Загонцю до дорожкі.  
Хто тэбэ сіяў? Хто тэбэ сіяў?  
Сіялі мілого ручкі.

Жытняе жніво цягнулася два тыдні: ад Антонія да Ільі. Перад Ільёю кожны стараўся дажаць і звезці збожжа, бо „Ілье ў ляшкі налье", казалі: значыць, ад Ілья пачыналі падаць дажджы. І за два тыдні жніва сярэдні гаспадар з усёй сваёй дружынай нажынаў дванаццаць-пятнаццаць коп жыта.

Калі ўжо дажыналі жыта, то пярэвяслам перавязвалі бацьку-гаспадара, каб яму сярэдзіна не балела ды добра збожжа радзіла, аж вылягала. А ў канцы ставілі „пэрэпэліцу". Займалі добрую жменю жыта, пастацянка трымала яго за калоссе, а гаспадар зжынаў. Каласкі звязвалі і ўручалі гаспадыні. „Пэрэпэліцу" ж пры версе звязвалі і прыбіралі celebrating рознымі кветкамі — найпрыгажэйшымі, якія ў каго былі. А каласкі, што „кветкай" звалі, гаспадыня нясла дадому і вешала на падстрэшшы. Гаспадар жа рабіў жанцам „годы" — гасціну з гарэлкай ды закускаю. Жанцы частаваліся, спявалі, а хлопцы круціліся ля дзвярэй і пад вокнамі, каб як мага лепш іх вадою абліць. За абліванне не крыўдзіліся — яно мела абяцаць добры ўраджай на будучы год.

А зараз жа па жніве і „чарнуха" пачыналася, калі гаспадары „ў загон", пад новы засеў жыта, гараць ішлі. І прымавіска такое было: „на Глеба і Барыса хлеба напарыся і за раллю бярыся". Гультаяватым гаспадарам тады падспеўвалі:

Ой, горэ, горэ; ой, горэ, горэ,  
Нэ хочатсе ораті.  
Шчэ й горшэ горэ, шчэ й горшэ горэ,  
Голодному ўміраті.  
Ой, горэ, горэ; ой, горэ, горэ,  
Нэ хочэтьсе робіті.  
Шчэ й горшэ горэ, шчэ й горшэ горэ,  
Бэз сорочкі ходіті.

На Спленне здымалі „кветку" з падстрэшша, прыкладалі да яе каласкоў іншага рознага збожжа і, прыбраўшы квеццем з агародчыка, свянціць няслі. З яе потым гаспадар браў пару каласкоў і, уваткнуўшы іх у загон, новы засеў жыта пачынаў. На Вадохрышча гэтаю ж „кветкаю" свяцілі дом і дабытак.

Так яно калісьці бывала".

І не здзіўляйся, дарагі чытач, калі ўбачыш на полі красачна прыбраную „пэрэпэліцу" або калі цябе ў час дажынак крынічнай вадой абальюць — усё гэта для ўшанавання летапняга ўраджаю і заповедзь багатага плёну на будучы год.

**Мікалай Гайдук**

## „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-73"



*Удзельніца фінальнага агляду Ніна Палоцкая з Міхалова.*

*Фота А. Карпюка*

аўсяных адзінак з га, а плён сена са змеліяраваных лугоў атрымана ў границах 87—94 ц. з га.

— Каб атрымаць высокі плён зялёнай масы трэба хіба панесці вялікія кошты?

— Неабавязкова. Пашавая трава, падобна як і лугавая, вымагае адпаведнай колькасці часу на адрастанне. Каб гэтага адрастання перадчасова не заглуміць трэба лугі падзяліць на адпаведныя кватэры, якія не мусяць быць агароджаны — могуць быць толькі адпаведна зазначаны на зямлі. Пасля выпасення кожнага загону трэба скасіць недаедзеную траву, даць азотнае ўгнаенне ў колькасці 30—40 кг N/га і пакінуць пашы для адросту травы на 25—35 дзён у спачынку. Кватэры такія можна выпасаць, трымаючы жывёлу на ўвязі, або, пры яе большай колькасці луг можна агарадзіць.

— Ці кватэрнае выпасанне з'яўляецца неабходным для атрымання высокай прадукцыйнасці пашаў?

— Толькі пры размеркаванні паверхні пашаў на адпаведныя дзялянкі можна атрымаць высокую яго прадукцыйнасць. Пры бяспланавай сістэме, у якой вядуць пашавую гаспадарку яшчэ многія сяляне, атрымоўваецца найвышэй 30% магчымага плёну.

— А як загаспадароўваюцца лугі і пашы ў Вашай роднай вёсцы?

— У вёсцы Градочна, што на Гайнаўшчыне, адкуль я родам, існуе багатая традыцыя ўласцівага загаспадароўвання лугоў. Збіраецца з іх сена пераважна тры разы ў год. Сяляне ўносяць многа ўгнаення на лугі, дзякуючы чаму збіраюць высокія ўраджаі, каля 70—80 ц. сена з га. Падкрэсліць трэба, што таксама шчыра клапоцяцца аб уласцівай уборцы сена і ў гэтым могуць служыць прыкладам для іншых. Нягледзячы на тое, што ворныя землі там пераважна 5 і 6 класа, сяляне ўтрымоўваюць многа жывёлы, у асноўным быдла. Пашы ў большасці выкарыстоўваюцца праз палікаванне; — яшчэ, аднак, не ўсе сяляне вядуць дастаткова інтэнсіўную пашавую гаспадарку.

— А што трэба было б зрабіць, каб іменна ўсе сяляне гаспадарылі на лугах поўнасцю сучасным спосабам?

— У гэтай галіне адчуваецца недахоп прафесіянальнай падрыхтоўкі сялян, а ў такой сітуацыі заходзіць патрэба актыўнай спецыялістычнай дапамогі з боку сельскагаспадарчай службы.

— Будзем жадаць нашым суродзічам-сялянам як найхутчэйшага пераходу на поўнасцю сучаснае гаспадараванне. А якія асабістыя пажаданні Вы хацелі б выказаць у даны момант?

— Пачалі мы гутарку ад кніжкі, думаю, што можам на гэтым і закончыць размову. Маім жаданнем было б, каб сяляне і сельскагаспадарчая служба, таксама Беласточчыны, у практыцы сваёй скарысталі з вывадаў у ёй змешчаных. Прынесла б гэта мне як аўтару самае вялікае задавальненне.

— Думаю, што такое задавальненне Вы адчуеце пры чарговым наведванні родных мясцін. Вы ж вядомы ўжо аўтар. Друкаваныя звыш паўмільённым тыражом дасканала апрацаваны рэкламныя лістоўкі, нпр. „Nawożenie łąk i pastwisk" ці „Nawożenie mineralne łąk i pastwisk" шырока вядомы на Беласточчыне. Сяляне напэўна слухалі Вашыя гутаркі па радыё, глядзелі прэзентацыю Вашай кніжкі па тэлебачанню і, безумоўна, пазнаёміліся з часткай прынамсі шматлікіх публікацый на старонках сельскагаспадарчых часопісаў, такіх як „Plon" ці „Chłopska droga". Сельскагаспадарчая служба таксама, напэўна, знаёма з Вашымі, налічваючымі звыш 90 пазіцый, публікацыямі на гэтыя тэмы.

Ведаюць Вас таксама як эксперта, даследваючага лугі пасля меліярацыі на аб'екце Зубры-Зубкі, беластоцкага павету.

Я перакананы, што і гэта Ваша выказванне прынясе карысць чытачам.

Дзякую за размову.

Да новых сустрэч!

Гутарку правёў  
**Мікалай С. Врублеўскі**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Для мастацкага калектыва ў Белавежы

Па захадах Гайнаўскага аддзела БГКТ, які звярнуўся з просьбай да Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы, вялікі і штораз больш вядомы мастацкі калектыў Белавежа атрымаў 60.000 зл. на касцюмы для танцавальнай групы і музычныя інструменты. Прэзідыум ПРН адвёў гэтую суму з сваёй бюджэтнай надвыжкі, Гайнаўскі аддзел БГКТ сардэчна дзякуе свапм уладам за гэтую дапамогу. Калектыў у Белавежы налічвае 40 асоб.

**В. Бура**

## Актывісты БГКТ

Людміла Васілюк з Плёскаў. Шматгадовы малады дзеяч БГКТ. Старшыня гуртка БГКТ у Плёсках, кіраўнік вакальнага калектыва (дзявочага квартэта) там жа. У гэтым годзе закончыла Бельскі беларускі ліцэй.




## Дзе ж падзеліся вы?...

Дзе ж падзеліся Вы, ліцэі,
Гайнаўка і Міхалова?
Ці ж вы добра паглядзелі,
Аб чым піша наша „Ніва“?
Вы прыціхлі і замкнуліся,
У сваіх будзённых днях,
Быццам мовы вы забыліся
І паснулі ў сваіх снах.
Прабудзіцеся, дарагія,
Бо „Парнасік“ ужо сумуе!
Чаму ж вы не як другія,
Ніхто верша не змайструе?
У Міхалове паказалася адна
Маладая паэтэса —
Незнаёмая Кузьма.
Гайнаўка хоць аднаго,
Свайго выхаванка пхнула
І адразу ў Белавежу (вось дарога!)
Харкевіч Юрка, далей дружа,
Многа брава для цябе
І тону пажаданняў!
Пішы далей, лепш, прыгажэй,
Прадстаў нам каларыт перажыванняў.
Гэй, Гайнаўка і Міхалова!
Чаму ж з Бельска не ўзялі вы
Прыкладу сабе ў дарогу?
Тут сярод вучняў адны паэты,
У школе ёсць іх каля ста,
Усе пішуць вершы-цацкі.
У „Белавежы“ іх таксама цьма.
Пазнаць адразу — запал паэтыцкі.
Яшчэ адзін разок да вас
Звяртаюся я з заклікам:
Спрабуйце напісаць хоць раз,
Далей ужо пойдзе, як ракетай.
Верш вось такі я напісаў,
Не ведаю, што „Ніва“ скажа.
А можа я ў яго ўклаў
Яе таксама мары?

**Яўгень Семянюк**
Бельскі беларускі ліцэй

## ДВА КЛЁНЫ

У самым кутку панадворка, каля платy маёй хаты ўжо 15 год растуць два прыгожыя клёны. Адзін цвіце яркачырвоным, а другі белым квеццем. Гэта вельмі прыгожыя дрэвы з шырокім лісцем і шматлікім квеццем, з прыемным пахам.

Увосень даспявае насенне клёнаў. Ад гэтага насення масава растуць самасейкі. Гэта маладыя дрэўкі, якія маглі б заняць пачэснае месца ў гарадскіх парках поруч з ліпамі, ці каштанамі, а ў вёсцы як жа прыдаліся б каля новых мураваных дамоў. Увосень так многа можна сабраць насення, што хапіла б на залажэнне вялікага гадавальніка.

Добра было б, каб прыродазнаўцы агледзелі клёны цяпер, а ўвосень, каб сабралі з іх насенне. Думаю, што і самое клёнавае дрэва можа мець значэнне ў сталярцы.

Не ведаю чаму, але клёны гэтыя называюць амерыканскімі. Прыродазнаўцы маглі б з цікаўнасцю разгледзець батанічную з'яву, што дрэвы з аднолькавым лісцем маюць квецце розных колераў — белае і з адценнем чырвонага.

**Нестар Перавой**
Бельск

## Дзяцінец у Грэдалях

На час жніў у вёсцы Грэдалі Бельскага павету, быў сарганізаваны дзяцінец. Сарганізавала яго Таварыства прыяцеляў дзяцей і павятовы аддзел сельгасгурткоў. Вялікі ўклад свой далі таксама: гурток вясковых гаспадынь і пажарнікі.

Дзяцінец вядуць вучаніцы бельскага беларускага ліцэя: Валянціна Любчэнка і Ірэна Маліноўская. Дзяўчаты добра ведаюць дзіцячую псіхіку і любяць дзяцей.

Усе задаволены дзяцінцам. Дзеці цешацца прыгожымі цацкамі і новымі гульнямі. Бацькі ўпэўнены, што ў час, калі іх няма дома, іх дзеці знаходзяцца ў добрых руках і ім не станецца нічога дрэннага.

**Міхась Інфармацкі**

## Плёскаўскія дарогі

У Плёсках ёсць дзве дарогі. Абедзве вядуць з вёскі да шашы Бельск—Беласток. Дарога, якая вядзе з канца вёскі ў напрамку Дзенісак і далей, ужо брукаваная. Па ёй выгодна ісці ды ехаць. Як жа інакш выглядае дарога, што ідзе ад сярэдзіны вёскі да крамы і далей праз лес на прыпынак пры Кашарцы (гэта мураваны домік, у якім жыве дарожнік). Праўда, ужо і тут паставілі аўтобусную пачакальню. Гэта добра. Людзям не трэба хавацца ад дажджу ці снегу пад сосны або ўпіхацца ў кашарку. Не ўсё аднак яшчэ ў парадку. Можна тут прыпомніць народную прымаўку: „Калі ёсць чэрці, няма смалы“. Так вось і ў Плёсках. Ёсць пачакальня, але дарога да яе — гэта горбы пяску, выбоі, глыбокія ямы ды балота. Не прайсці, не праехаць. А з вёскі штораз дык і трэба ісці або ехаць. А то ў краму, а то на ПКС. Гэтай жа дарогай гаспадары звозяць з палёў сваё дабро.

Пра дзіўную плёскаўскую дарогу прыпамінаем і самым плёскаўцам (вы многа можаце зрабіць, калі ахвота будзе), і гмінным уладам, ад якіх можа выйсці ініцыятыва зрабіць дарогу, як дарогу. Усё для супольнай жа карысці. (на)




**Дарагое „Сэрцайка“!**

Мне скончылася 15 год. Закончыла я пачатковую школу і пайду вучыцца далей. На канікулах я з мамай ездзіла ў Савецкі Саюз да цёці. Жыве яна ў вельмі прыгожым горадзе непадалёк ад мора. Там многа замежных турыстаў. Пасябравала я там з Пецяй — хлопцам з гэтага ж горада. Ён на год за мяне старэйшы. Хадзілі мы з ім на пляж, агледалі горад. Ездзіў таксама з намі на экскурсію ў больш адлеглыя мясцовасці. Многа мне аб іх расказваў і старайся паказаць усё найпрыгажэйшае і найцікавейшае. Дзякуючы яму я ўзбагаціла свае веды аб гэтых цудоўных мясцовасцях. Пачаткова лічыла я Пецю сваім найлепшым сябрам, але потым пакахала яго. І ён мяне таксама. Расстаючыся, Пеця абяцаў, што будзе пісаць мне пісьмы. І датрымаў слова. Лісты ад яго я ўжо атрымала. Але „Сэрцайка“, у мяне ёсць і другі хлопец — Генік з нашай вёскі. Ён у маім узросце. Але Пеця мне больш падабаецца і я ўжо Геніка не так кахаю як раней, бо кахаю Пецю. Парай „Сэрцайка“ як уладкаваць гэтыя справы?

**Ніна з Гайнаўшчыны**

**Ніна!** Ты яшчэ вельмі маладая і такія ж маладыя твае хлопцы. Дык не бяры ўжо свайго дзіцячага кахання так сур'ёзна. Перад вамі перш за ўсё навука — ваша будучыня. Неўзабаве ўжо ж распачнецца школьны год. Перапіска з Пецем напэўна варта. Гэта карысная справа. Ты паглыбіш веды аб Савецкім Саюзе, больш пазнаеш рускую мову. Гэта ж вельмі табе прыдасца ў школе. Хлопцаў трактуй па-сяброўску. Добрых сяброў ніколі не замнога.

**Сэрцайка**

## Дзе б тут вудачку закінуць?

Змянілася рэчка Супрасль. Вады ў ёй сёння, як кажуць, чалавеку па шыю. Гэта тады, калі той на галаве ў рэчцы стане.

Дзе б тут быць рыбе? Калісьці, папляваў на чарвячка, сеў над ямкаю і лаві, калі ласка, ці акуньКа, ці плотачку, ці іншую рыбку. А цяпер хоць ты ў ваду плюнь. А павудзіць хочацца. Найбольш азартныя ездзяць на Свіслач, на Нараў, а некаторыя нават на Бебжу.

Туды аднак далёка. Дзе тут выскачыць вось так сабе, на гадзінку, на дзве? Хто шукае, той знойдзе кажа пагаворка. Так і я папаў з баначкай чарвякоў і вудкай на „Руду“ — невялічкі ставок недалёка ад станцыі Валілы. Стаўкі там, праўда, два. Адзін зараз каля шашы. З яго, кажуць, калісьці паравозы ваду набіралі. Другі, далей у лесе, пры дарозе ў Пілатоўшчыну. Ля яго да вайны быў дзіцячы лагер. Будынкі стаяць. Сёння тут ціха і пуста. Кругом ялінкі.

Не вельмі верачы ва ўдачу, закінуў я вудачку ў мутнаватую, заросшую ціною ваду. Паплавок пастаяў хвілінку, пасля пахіліўся ў бок, вынырну раз і другі і раптам загінуў пад вадой. Падсек. Нешта ёсць!

І вось золатам бліснула ў паветры. Карасік, невялічкі, з пальдалоні.

За паўгадзіны іх некалькі плюскалася ў вядзерку. За чарговай падсечкай кручок быццам бы ўвяз у вадзе. Вудзіла выгнулася дугою.

Цягну. Трашчыць, пішчыць, а лезе, як гавораць у нас. А вось і ён! Карпік гэтак з паўкілаграма. Далей ізноў карасікі. Нацягаў амаль поўнае вядзерка. Адвёў душу. Вось табе і ставок. А кажуць, што недзе пад Вейкамі, у нейкім возерку таксама карасі водзяцца. Трэба будзе абавязкова сходзіць у нядзелю.

А вы не смейцеся, што рыбка невялічкая. Паспрабавалі б карася ў смятане. Што за смаката! Пальчыкі абліжаш. Ясна, што пасля таго, як памылі рукі, якімі чарвякоў на кручок чаплялі.

**Ларс**

## UWAGA, CZYTELNICY PRASY RADZIECKIEJ!

**Czytelniku, jeśli zaprenumerujesz prasę radziecką, to dowiesz się o życiu ludzi w Związku Radzieckim, aktualnych wydarzeniach w świecie, problemach przemysłu i rolnictwa, nauki i techniki, kultury i sztuki, sportu i turystyki.**

**Prenumeratę załatwiają ci szybko i sprawnie jednostki powiatowe „Ruch”.**

**Instytucje państwowe i społeczne, szkoły, zakłady pracy, przedsiębiorstwa handlowe i usługowe zamówienia składają w Oddziałach i Delegaturach Przedsiębiorstwa Upowszechniania Prasy i Książki w Białymstoku. Prenumeratorzy indywidualni prasę radziecką mogą zamówić we wszystkich klubach „Ruch” lub wytypowanych kioskach.**

**Prenumerując „Prawdę”, „Sowietskij Sojuz”, „Komsomolską Prawdę”, „Kraj Rad” i inne czasopisma dowiesz się o czym myślą, mówią i dyskutują w Kraju Rad. Przeczytasz utwory pisarzy radzieckich, pamiętniki wybitnych działaczy społecznych i politycznych, wspomnienia legendarnych dowódców wszystkich frontów wojny ojczyźnianej. A więc nie zwlekaj, jeszcze dziś złóż zamówienia na prenumeratę pism radzieckich.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

Яшчэ ў справе Надзі Бобік з Ласінкі адказвае Праўленне Гміны ў Нарве.

**DECYZJA 521/56/73**

Na podstawie instrukcji nr 5/68 Ministra Zdrowia i Opieki Społecznej z dnia 24 lutego 1968 r. w sprawie pomocy społecznej w formie świadczeń pieniężnych (Dz. U. MZiOS z 1968 r. nr 6, poz. 33) zmienionej instrukcji Nr 14/71 Ministra Zdrowia i Opieki Społecznej z dnia 7 kwietnia 1971 r. (Dz. U. MZiOS z 1971 r. nr 10, poz. 51) Urząd Gminny w Narwi po rozpatrzeniu sprawy Ob. Bobik Nadziei zam. Łosinka, p-ta Łosinka, pow. Hajnówka odmawia przyznania zasiłku w formie pieniężnej.

**UZASADNIENIE**

**Obywatelka jest rencistką (jeden tysiąc trzysta pięćdziesiąc zł.** renty miesięcznie). **Posiada około 1,5 ha gruntów rolnych.** Wyżej wymieniona ma 46 lat. Żadnej grupy inwalidzkiej nie posiada, ani też zaświadczeń lekarskich o występujących chorobach. Wobec powyższego Obywatelka nie kwalifikuje się do udzielania pomocy społecznej.

Od decyzji niniejszej służy stronie odwołanie do Wydziału Zdrowia i Opieki Społecznej Prezydium Powiatowej Rady Narodowej w Hajnówce za pośrednictwem tut. Urzędu Gminy w terminie czternastu dni od dnia jej doręczenia. Naczelnik Gminy Witalis Piekarski.




**Я. Грыцук**, Ташкент. Дзякуем за пісьмо і апавяданне. Аднак, самі разумееце, па-руску не друкуем. **Міхась Шаховіч**, Сакі, Бельскі павет. Верш „Зорка“ надрукуем. Крыху дагуравалі.

**Антон Васілеўскі**, Гліўіцэ. Паэму пра „Тры губы“ не зможам друкаваць. Вельмі доўгая.

**Яўгень Семянюк**, Грыгароўцы, Бельскі павет. Добры прыдумалі сабе псеўданім, але яшчэ лепшыя напісалі інфармацыі. Вось гэтага нам ад вас трэба больш. З вас будзе добры карэспандэнт. Мова добрая і ўмееце бачыць цікавыя з'явы жыцця. Чакаем!

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Smak zemsty" (hiszpański), 1—2. „Na samym dnie" (NRF), 4—5. „Poszukiwany, poszukiwana" (polski), 6—7. „Historia miłości" (hiszpański), 8—9.

**Чаромуха**

„Bolesław Śmiały" (polski), 1—2. „Słoneczniki" (włoski), 4—5. „Przyjęcie" (rumuński), 8—9.

**Нарва**

„Śmierć na zakręcie" (NRD), „Posag księżniczki Ralu" (rum.), 5—9.

**Чыжы**

„Ktoś za drzwiami" (franc.), „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (radz.), 5—9.

**Дубічы Царкоўныя**

„Sokoły" (radz.), „Kozacy" (radz.), 5—9.

**Арэшкава**

„Pilot helikoptera" (rumuński), „150 na godzinę" (polski), 8—9.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Błędny ognik" (franc.), 1—2. „Spacer w wiosennym deszczu" (USA), 8—9.

**Міхалова**

„Słoń z indyjskiej dżungli" (radz.), 1—2. „Spacer w wiosennym deszczu" (USA), 4—5. „Wojenna przyjaźń" (węgierski), 6—7. „Anatomia miłości" (polski), 8—9.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Ranny w lesie" (polski), 5—9.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Próba terroru" (USA), 4—5. „Szatnia pełna królików" (węgierski), 6—7. „Jezioro osobliwości" (polski), 8—9.

**Мельнік**

„Skrzydła Października" (radz.), 4—5. „Najlepsze lata w życiu mężczyzny" (węgierski), 6—7. „Jezioro osobliwości" (polski), 8—9.

**Ніва**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa”, Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch” w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc. Nr indeksu 36911**

**BZGraf. Nakład 7.186 K-3**

# ЯБЛЫНЯ РАЗЛАДУ

Жылі суседзі ў дружбе, згодзе,
Тост абвясцілі не адзін,
Пакуль ля плоту ў агародзе
Стась яблыньку не пасадзіў.

Спярша, вядома, было ціха
І не паказвала на зло,
Ды дрэўца, як на тое ліха,
Нібыта на дражджах, расло.

Галіны яблынькі ўжо звісалі
І над суседскаю градой...
Аднойчы Стасева Анфіса
Палезла цераз плот:
— О-ёй!

Я і не бачыла, сляпая,
Што яблыкаў ляжыць тут шмат.
Але Аўдоцця выбягае
І неаспрэчнае: — Назад!

Стаптала ўсё! І так не хоча
Ужо расці нічога тут,
Бо тваё дрэва вільгаць смокча
З маёй зямлі, нібыта спрут.

— Ты жміньда, — крыкнула Анфіса, —
На, падавіся! Рві з галін!
І так жанчыны разышліся,
Што ледзь мужчыны развялі.

Не ўсё ж, скажу, не ўсё тут дрэнна,
Не ўсё тут страчана яшчэ:
Суседзі сварацца, а дрэва
Сабе расце, расце, расце...

**Іван Муравейка**



# НІЎКА



### БАБУЛЯ

Студэнт прыехаў да бабулі ў вёску на канікулы.

Для яго адвялі добры чысценькі пакой, радыё-рупар гаворыць. Гаворыць усё ранне, цэлы дзень і ўвесь вечар. Унуку захацелася ў ціхаце адпачыць, і ён памкнуўся выключыць. Але бабуля не дазволіла.

— Няхай сабе гаворыць, бо яно, саколік, у мяне аплочана...

### РАСТЛУМАЧЫЎ

Прадстаўнік з павету:
— Што гэта вашы свінні так гойсаюць?
Загадчык свінафермы:
— Фізкультурай займаюцца, каб у свінарніку лепш лужыны пераскакваць.

### ХТО ПРЫМУШАЕ

— Ух, якая спёка! Трыццаць шэсць градусаў у цяньку.
— А хто ж цябе прымушае сядзець у цяньку?

## МІНІБАЙКІ

### МЯДЗВЕДЗЬ-ХУЛІГАН

У лесе завёўся мядзведзь-хуліган. Стаў ля звярынай сцежкі і кожнага, хто пройдзе міма, узнагароджваў важкім ударам у карак.

Для барацьбы з хуліганам зайцы высунулі папулярны лозунг:
— Не праходзьце міма!

### СЛЯПЫ ДОЖДЖ

Сонца свеціць, а Дождж усё-такі капае. Яму гавораць:
— Ты што, сляпы?! Чаго ты на Сонца капаеш?!
— А што рабіць? Трэба ж захоўваць сваю рэпутацыю дажджа.

Адсюль такая мараль: хочаш захаваць сваю рэпутацыю — капай на другога.

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**

*Вучоны ў водпуску.*



**...Ён займаў пазіцыю Жыўца: сам на кручку і іншых падваблівае.**

**...Ён меў нешта агульнае з Пегасам: піў, як конь.**

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Віктара Харытанюка з Цялушкаў змяшчаем

## TE OPOLSKIE DZIOUCHY

Te opolskie dziouchy
wielkie załotnice,
kazały se poszyć
czerwone spódnice.

Sza la la
Sza la la
Sza la la la, la,
kazały se poszyć
czerwone spódnice.

Te opolskie dziouchy,
wielkie paradnice,
kazały se poszyć
czerwone spódnice.

Sza la la
Sza la la
itd.

Czerwone spódnice,
białe zapaśnice,
zańdom na muzyka,
stoją jak maślnice.

Sza la la
Sza la la
itd.

Stoją jak maślnice,
grafnie wyglądają,
ale w tańcu chłopcom
po butach deptają.

Sza la la
Sza la la
itd.

*НОВЫЯ ПАТЭНТЫ*



*Трактар-аўтамат.*

### ДАРЭМНАЯ ТРЫВОГА

Стаяць двое. Размаўляюць.
— Кум, кум, глядзі, вось ваша хата гарыць...
— Ды не, не хвалюйцеся, гэта мая жонка перад святам радно вытрасае, — спакойненька адказаў той.

### СЫН ВЕДАЕ

Сядзіць маці і сын ды вячэраюць. Раптам на панадворку нешта як не загудзе, потым — зараве, а далей і трашчаць пачало.
— Ой, ліханька! — перапалохалася маці, — мабыць, карова адарвалася!
— Не хвалюйся, мама! — супакоіў сын. — Гэта тата дамоў ідуць.

### ЧАМУ

— Чаму ты сёння ўзяў з мяне даражэй за яблыкі?
— Таму, што загарнуў вам іх у свежую газету.

### КАМУ ВЕРЫЦЬ

— Насця, твайго Івана ўчора бачылі з Галькаю!
— Эт! Плёткі гэта ўсё. Я чула якраз усё наадварот, быццам Гальку бачылі з маім Іванам. Не ведаеш, каму і верыць.



## ПЕРАВЫХАВАННЕ

Задумаў адзін хлопец жаніцца ды браць сабе ў жонкі прыгожую Адарку. Дзеўка яна — што макавая кветка, але адна бяда: гультайка на ўсё сяло. Таму бацька і кажа:

— Хоць яна і дачка мая, ды браць не раю. Прападзеш хлопча.

— Не, — гаворыць малады. — У мяне ёсць кот вучоны. Удваіх з ім перавыхаваем Адарку.

— Дай бог пачутае бачыць...

Пажаніліся. Прачынаецца раніцою Змітро і чакае, пакуль Адарка ўстане ды снеданне згатуе. А яна ўсё спіць, з печы не злазіць. Так без снедання, абеду і вячэры застаўся Змітро.

А разам з Адаркаю на печы адлежваецца котвусач. Крыўдна стала Змітру за жонку маладую. І на трэці дзень у абед ён кажа ёй:

— Злазь, Адарка, з печы, будзем ката вучыць есці гатаваць. — І загадвае ён ката-вусача за хвост на плячах трымаць, каб лепш яго дубцом лупцаваць.

Раз гэта — па кату, а раз — Адарцы па плячах. Кот з усяе моцы крычыць ды кіпцюрамі сваімі за плечы дзярэ. А Змітро лупцуе ды ўсё прыгаворвае:

— Гэта за тое, што снеданне не варыў! А гэта за абед, а гэта за вячэру!..

І хоць балюча Адарцы, ды і яна ката лае:

— Так табе і трэба, лайдак!

І так разы тры вучыў Змітро ката есці гатаваць. А на сёмы дзень вяртаецца з работы і бачыць: на стале і варанае, і смажанае. І пытае ён Адарку:

— А хто ж гэта ўсё нагатаваў?

— Кот, любы, кот! Дайшло да лайдака.

На восьмы дзень запрасіў Змітро цесця ў госці. Ішоў той з неахвотаю: ці ж прыемна гэта сорам цярпець за дачку-гультайку. Але тое, што ўбачыў бацька на стале ў Змітра, здзівіла яго: нават старая Тэкля так гатаваць не магла. Такія смачныя там стравы стаялі, што не сцярпеў і запытаў:

— Твая, донька, работа?

— Мая, татусь.

Вось што значыць — у хаце кот вучоны!

Запісаў **В. Лоўгач**





### ГАЛАСІСТАЯ КАЛЕКЦЫЯ

Страсць да калекцыяніравання набывае часам незвычайныя формы. Рабочы Цірасапальскага завода Малдаўскай ССР М. В. Чарчэнка збірае... птушак. У яго доме па вуліцы Ульяны Громавай у вальерах жыве больш за 500 птушак. Догляду сваёй галасістай калекцыі ён прысвячае ўвесь вольны час.

М. В. Чарчэнка сабраў дзесяткі відаў папугаяў, канарэек розных расфарбовак, шчыглоў, канаплянак, зарапак. Дом яго заўсёды адкрыты для аматараў прыроды. На заводзе ён стварыў жывы куток.

### ПРАДАЕЦЦА... ГОРАД

У амерыканскай газеце „Кэспер стар трыбюн“, якая выдаецца ў штаце Вайамінг, з'явілася аб'ява аб тым, што ў гэтым штаце прадаецца... горад.

Вядома, гарадок Ламант да ліку буйных ніяк не адносіш. Згодна з перапісам 1970 года, яго насяляюць сто чалавек. Размешчаны па абодва бакі магістральнай шашы, гарадок жыве абслугоўваннем праезджых. Тут ёсць дзве бензазаправачныя станцыі, гасцініца, два магазіны, кафэ, бар, некалькі жылых дамоў.

Усё гэта да апошняй цагліны належыць нейкаму Бобу Кінгу, які скардзіцца, што Ламант у апошні час перастаў прыносіць яму прыбыткі, і ён вырашыў прадаць яго за „сходную“ цану — 150 тысяч долараў. Набыць гарадок выказалі жаданне тры бізнесмены. Пачаўся бойкі торг.

За яго ходам з трывогай сочаць жыхары Ламанта, якія вымушаны пакорліва чакаць рашэння свайго лёсу.



**Раней казалі: як возу пятае кола. Цяпер гавораць: як машыне аглоблі.**